# ПРАЦАЎНІК АСЬВЕТЫ

Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

№ 5 | 17 чэрвеня 1928 г. | № 5

ЗЬМЕСТ



# Па раённых настаўніцкіх і палітасьветных канфэрэнцыях.

## Чэрвенская раённая канфэрэнцыя

сабралася з мэтаю падагуліць працу за 27-28 навучальны год, адзначыць адмоўныя і станоўчыя, бакі працы школ, даць некаторую крытыку падручнікам, а разам з гэтым і ўнесьці зьмены ў праграму. Дзеля гэтага ўсе асьветнікі былі разьбіты на сэкцыі.

### У праграмы неабходна ўнесьці зьмены.

І вось сэкцыя 3 і 4 камплектавых школ выявіла ў сваей працы наступнае:

Праграмны матар'ял 1 і 2 кл. выпаўнен цалкам, за выключэньнем кубатуры і ўнутраных органаў птушак, які лічым патрэбным выкінуць; акрамя гэтага, трэба больш дэталізаваць у комплексах грамадазнаўчы і прыродазнаўчы матар'ял другіх груп.

У праграмах 3 груп няма яснасьці паміж гарадзкім і вясковым адменьнікам, чаму лічым неабходным у гарадох, дзе ёсьць шмат земляробскага насельніцтва дадаць матар'ял з вясковага адменьніка. Праграмны матар'ял на расейскай мове вельмі пашыран, па гэтаму лічым у 3 кл. абмежавацца толькі да морфалёгіі, а апошнюю перанесьці да 4 кл.

У праграмах 4 кл. прыкмячаецца няўвязка грамадазнаўчага комплекснага матар'ялу з агульнымі ведамі, як напрыклад: утварэньне нацыяў, Кіеўскага кн-ва, Маскоўскае дзярж. і г. д. Няма ў комплексе СССР. Таксама адзначаем, што палітычныя партыі, іх задача, сродкі і мэтады барацьбы, 2-гі інтэрнацыянал і яго бясслаўная дзейнасьць за апошнія гады, сусьвет і мейсца ў ім нашай зямлі зьяўляецца за надта цяжкім матар'ялам і амаль што недаступным разуменьню дзяцей 4-ай кл. З матэматычнага матар'ялу лічым патрэбным выкінуць азначэньне аб'ёмаў піраміды конуса, кулі а таксама і разгляд астралябіі.

**Падручнікі і крытыка іх***). Лемантар Некрашэвіча добры, крыху не хапае комплекснага мат-лу к тэме: «Падрыхтоўка да зімы і зімовая праца», які магчыма здабыць з лемантара „Федасенка“. «Чырвоная Зьмена» часьць І прыстасавана да праграмы за выключэньнем невялікага недахопу матар'ялу па комплексах «Падрыхтоўка да зімы і зімовая праца». **Арытмэтычны задачнік «Лойко» зусім не дапасаваны па зьместу да 1 кл.** Крыху лепшы задачнік „Грацыянскі і Кавун“.

У першых клясах адчуваецца вялікая патрэба ў прыладах, як, напрыклад, у арытмэтычным яшчыку і лічыльніку.

**„Чырвоная Зьмена“** ч. ІІ для ІІ кл. амаль што дапасавана да комплекснай сыстэмы. Крыху малавата артыкулаў для комплексаў «Падрыхтоўка да зімы і зімовая праца». Малавата заданьняў пры артыкулах для пісьмовых прац.

**Задачнік «Лойко»** не дапасаваны для ІІ групы.

У падручніках для яўрэйскіх школ мала матар'ялу па комплексу «Ахова здароўя». Рэшта падручнікаў дапасавана.

**«Чырвоная Беларусь»** у ІІІ кл. мала дапасавана да праграмы. Адсутнічае матар'ял пры прахаджэньні комплексу „БССР“. Артыкулы напісаны так, што нельга скласьці плянаў. Зусім мала матар'ялу па драматызацыі; вершы або вельмі доўгія, або незразумелыя для вучняў па зьместу. Адчуваецца зьмяшчэньне шэрагу невялічкіх артыкулаў для пераказу і вольных дыктовак.

Падручніка адпаведнага па расейскай мове зусім няма.

**Па правапісу «Лёсіка»** неабходна пашырыць лік практыкаваньняў.

**Школьная граматыка «Лёсіка»** для карыстаньня вучням не адпавядае, акрамя толькі настаўніку. Трэба вытрымаць больш фармальны прынцып. Апрацаваць яе і прыстасаваць да вучняў, зьмясьціўшы ў апошняй лік граматычных практыкаваньняў, дапасаваных да сучасньсці комплексаў.

**Першая частка расейскай грамат. «Фрыдлянд і Шалыт»** ва ўмовах беларускіх і яўрэйскіх школ зусім не адпавядае.

**Задачнікі «Ланкова», „Эмэнаў“ і „Зенчэнко“** зусім не дапасаваны да ІІІ клясы. Патрэбна выпусьціць новы задачнік дапасаваны да комплек-

---

*) Навуковы Мэтад. Комітэт, цябе гэта павінна цікавіць. Уважліва прачытай і зрабі належныя вывады.

саў з шэрагам прыкладаў для тэхнічных навыкаў з невялічкімі плянамі і мэтрычнымі мерамі.

**Географія „Смоліча“** можа быць скарыстана толькі настаўнікам, а для вучняў выдаць падручнік з агульнымі ведамі з пачатку, а пасьля зьмясьціць БССР.

**Падручнік па прыродазнаўству „Траяноўскага“** падыходзіць для настаўніка, а для вучняў неабходна выданьне рабочай кнігі як для беларускіх, так і для яўрэйскіх школ.

У падручніку **„Дзеці Труда“** ч. II яўрэйскіх школ адсутнічае матар'ял пры прахаджэньні камплексу БССР.

У кніжцы **„Наш Сьцяг“** для IV году навучаньня мала матар'ялу эканамічнага характару па комплексу «Новая і старая вёска». Амаль што адсутнічае матар'ял мастацтва і недастатковая колькасьць вершаў.

Тое самае заўважваецца і па падручніку яўрэйскай школы «Дзеці Труда» ч. III.

**Географія «Іванова»** зьяўляецца добрым дапаможнікам для настаўніка. Досыць прыродазнаўчага матар'ялу для настаўніка ў «Траяноўскага». част. II. Для вучняў беларускіх і яўрэйскіх школ выдаць рабочую кніжку з прыродазнаўчым, прыродазнаўчым і географічным матар'ялам.

Расейская граматыка част. II дзеля вучняў адпавядае. Вывадаў па распрацаваньню няма, што зьяўляецца заганай, якую неабходна выправіць.

Расейскі падручнік **«Ясное Утро»**—Флерова надта цяжкі як па зьместу, так і па мове для беларускіх школ. Задачнікаў, дапасаваных для IV клясы, няма. Яўрэйскія школы маюць добры падручнік па арытмэтыцы „Дворкіна“.

### Вынікі самакіраваньня ў школах.

Органы самакіраваньня сябе апраўдалі. Санітарныя камісіі прывучылі вучняў трымаць сябе і сваю клясу ў належнай чыстаце і апратнасьці. Праца падлікова-вучотных камісій у I-II і III кл. выявілася ў штодзённай рэгістрацыі наведваньня вучнямі школы, а ў IV кл. далі досыць добрыя вынікі ў выяўленьні прычын пропускаў заняткаў вучнямі і дапамозе больш слабым вучням, шляхам прымацоўкі да іх больш моцных вучняў і праверцы чытаньня кніжак, якія браліся ў школьнай бібліятэцы.

Культурна-асьветныя камісіі дасягнулі значных вынікаў у справе пашырэньня падпіскі на газэты і часопісі сярод вучняў у наладжваньні калектыўнай чыткі газэт, у пастаноўках інсцэніровак, у ўцягненьні вучнёўскіх мас у грамадзкую працу Асоавіяхіму, МОПР'у. У яўрэйскіх школах—сямёхгодках па I канцэнтру прывіліся клюбныя вечары, якія прыцягнулі дзяцей да культурнага правядзеньню часу. Вось прыблізна вынікі працы сэкцый 3 і 4 камплектавых школ.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# Заслаўская.

## Вынікі працы школ.

Пасьля абсьледваньня вялікага проценту школ нашага раёну, райінспэктар нарасьветы т. Бадроў робіць справаздачу на раённай настаўніцкай канфэрэнцыі аб выніках працы 1927-28 навучальнага году.

З справаздачы відаць, што райінспэктар зьвярнуў асаблівую ўвагу па аднакамплектавыя школы з прычыны таго, што да гэтага часу на гэты тып школ было зьвернута вельмі мала ўвагі.

Па думцы райінспэктара т. Бадрова, нашы школы можна падзяліць на 3 тыпы школ. Да першага тыпу належаць тыя школы, дзе настаўнікі падрыхтаваны да сваёй працы, яны працуюць па праграме, вядуць вучот працы, праводзяць экскурсіі і г. д.

Да другога тыпу належаць школы, дзе настаўнікі маюць ня меншую адукацыю, чымся настаўнікі першага тыпу школ, але гэтыя настаўнікі, працуючы ў сучасны момант у савецкай школе, ужываюць тыя самыя мэтады, якія яны ўжывалі ў старых школах, там часта можна заўважыць **„зуброжку“**, але ня гледзячы на старыя мэтады, настаўнікі гэтага тыпу школ зацікаўлены сваёй працай і працуюць добрасумленна.

Да трэцяга тыпу школ належаць тыя школы, у якіх працуюць зусім непадрыхтаваныя настаўнікі, яны над сабою не працуюць, не знаёмяцца і ня цікавяцца праграмай, не вядуць вучоту працы, ні вучоту наведваньня вучняў.

Вывад ясны—у тых школах, дзе настаўнікі падрыхтаваны, працуюць па праграме і займаюцца самаадукацыяй, там і вынікі працы добрыя. Наадварот, там, дзе настаўнікі непадрыхтаваны, там праца кульгае.

Цяпер некалькі слоў наконт двухкамплектавых школ.

У гэтых школах таксама выплываюць 2 тыпы настаўнікаў. Першы, настаўнік-загадчык, больш падрыхтаваны і другі настаўнік—меней падрыхтаваны. У такіх школах настаўнікі дапамагаюць адзін другому. Трэба адзначыць, што ў гэтых школах усюды вядзецца вучот працы, але выхаваўчы бок кульгае.

Тав. Бадроў кажа, што яшчэ ён ня бачыць пераломy з боку настаўніка на пераход к новым мэтадам працы і выкладаньня, больш ужываюцца ўсё старыя мэтады. Сярод гэтых школ ёсьць яшчэ і такія, дзе настаўнікі ня ўжываюць комплексны мэтад выкладаньня, а наадварот—працуюць па прадметнай сыстэме. Такое зьявішча райінспэктар заўважыў у двух школах. У гэтых школах працуюць старыя настаўнікі, якія яшчэ не асілілі новыя мэтады выкладаньня і комплексаў.

У чатырохкамплектавых школах праца вядзецца досыць здавальняюча. Усе настаўнікі працуюць па комплекснай сыстэме і многія з іх ужываюць новыя мэтады выкладаньня.

У сямігодцы ў першым канцэнтры праца вядзецца па комплекснай сыстэме таксама, як і ў чатырохкамплектавых школах.

Неабходна яшчэ заўважыць, што ў школах вясковага тыпу праграмны матар'ял распрацоўваецца за 4 клясы сямігодкі. Але разьвіцьцё вучняў нездавальняючае, таксама і сьветапогляду ў іх мала. Асабліва гэта заўважваецца ў аднакамплектавых вясковых школах.

Але, наогул кажучы, у гэтым годзе школы далі больш падрыхтаваных вучняў, чымся ў мінулым.

Адно ў нашых школах нядобра, гэта тое, што ў першыя групы нашых школ пачынаюць хадзіць многа вучняў, а да старэйшай даходзіць вельмі мала. Вучні быццам адсыпаюцца ад школ у апошніх групах, не канчаючы школу.

### Узаемаадносіны паміж настаўніцтвам і насельніцтвам.

У нашых школах працуюць 2 групы настаўнікаў. Настаўнікі першае групы гэта тыя, якія як-бы зашіраюцца ў чатырох сьценах школы і якія ніякага ўдзелу ў грамадзкай працы ня прымаюць.

У такіх выпадках і ўзаемаадносіны з насельніцтвам непажаданыя. Да

другой групы можна аднесьці тых настаўнікаў, якія прымаюць актыўны ўдзел у грамадзкай працы разам са школамі, яны стаяць блізка да насельніцтва і, зразумела, што ўзаемаадносіны з насельніцтвам вельмі добрыя. У такіх школах ня толькі настаўнікі, але і вучні дапамагаюць насельніцтву і заслугоўваюць аўтарытэт.

**Узаемаадносіны паміж настаўнікамі.** Узаемаадносіны з насельніцтвам добрыя асабліва ў тых школах, дзе сярод настаўнікаў адчуваецца спаяны калектыў, дзе настаўнікі жывуць і працуюць у згодзе. У тых школах, дзе паміж настаўніцтвам пачынаюцца непаразуменьні, найчасьцей за дробязь, там настаўнікі падзяляюцца на 2 лягеры і часта на сходах адзін настаўнік выступае супроць другога, такім чынам абодва лягеры трацяць аўтарытэт перад насельніцтвам. Райінспэктар кажа, што з 30 школ, якія ўдалося яму абсьледаваць — 20 школ карыстаюцца аўтарытэтам сярод насельніцтва і ўзаемаадносіны там здавальняючыя. 3—4 школы зусім адыйшлі ад насельніцтва і працуюць толькі ў сьценах сваёй школы. Але на вялікі жаль у нашым раёне яшчэ маюць месца два **«гнойнікі»**, дзе канфлікты паміж настаўнікамі даведзены да крайнасьцяй. Гэтых настаўнікаў, па думцы райінспэктара, неабходна перавесьці ў другія школы, бо разам яны ні ў якім разе ня ўжывуцца.

Настаўнікаў тых школ, якія адыйшлі ад насельніцтва, неабходна як-небудзь прыцягнуць да грамадзкай працы, каб яны сталі бліжэй да насельніцтва.

## Узаемаадносіны з с.-саветамі і другімі арганізацыямі.

Нашы арганізацыі не здавальняюцца толькі тэй грамадзкай працай, якую праводзіць большая частка настаўніцтва, як, напрыклад: выступленьне на сходах і толькі,—такі сухі ўдзел настаўніцтва цяпер нашых арганізацый, а больш глыбокага ўдзелу з боку настаўніцтва вельмі мала. Наогул кажучы, з усяго ліку настаўнікаў—30 проц. прымаюць актыўны ўдзел у грамадзкай працы. Гэтыя 30 проц. настаўнікаў праз свае школы праводзілі ўсе кампаніі і актыўна ўдзельнічалі ў грамадзкай працы. З гэтага і вынікае, што ў гэтых 30 проц. школ узаемаадносіны з насельніцтвам добрыя.

## Дысцыпліна ў школе.

Неабходна заўважыць, што толькі ў тых школах добра наладжана дысцыпліна, дзе добра наладжана самакіраваньне і там, дзе праца вядзецца па комплекснай сыстэме. У тых школах, дзе самакіраваньне кульгае, там і дысцыпліна не наладжана, і настаўнік не карыстаецца аўтарытэтам сярод вучняў, акрамя таго, там і пэдагагічная праца кульгае.

## Роля мэтадычнага бюро ў працы школы і яе дапамога настаўніцтву.

У наступным годзе мэтбюро неабходна будзе зьвярнуць асаблівую ўвагу на самакіраваньне ў школе і ў гэтым напрамку дапамагаць настаўнікам. Дзеля гэтага неабходна, каб мэтбюро прыцягнула да сваёй працы больш настаўнікаў, і кіравала школамі і г. д. Агульныя вывады наступныя: Амаль усе школы нашага раёну ў гэтым годзе працавалі інтэнсыўна, дзякуючы гэтаму і вынікі працы досыць здавальняючыя, пасьпяховасьць вучняў павялічылася да 85 проц. з усяго ліку.

Большы процант настаўнікаў працаваў па комплекснай сыстэме, ёсьць вялікае імкненьне з боку настаўнікаў да ўжываньня ў сваёй працы новых мэтадаў выкладаньня. Імкненьне да самаадукацыі сярод настаўнікаў з кожным годам пашыраецца, таксама пашыраецца ўдзел настаўніцтва ў грамадзкай працы, настаўнікі стараюцца трымаць цесную сувязь з насельніцтвам і рознымі арганізацыямі Павялічыўся навучальны год на вёсцы да 15 траўня, у мястэчку да 15 чэрвеня Усе гэтыя вывады падкрэсьліваюць, што наша працоўная школа з кожным годам расьце, паглыбляе сваю працу і заваёўвае сабе аўтарытэт.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

# На Гомельшчыне.

Па Гомельшчыне адбылося дзьве канфэрэнцыі вясковага настаўніцтва—Чачэрскага раёну і Гомельскага. Хаця канфэрэнцыі скліkаліся амаль што за кошт самога настаўніцтва, але зьявілася сябраў шмат—70—75 проц.

Канфэрэнцыі прайшлі з надзвычайным уздымам. Абгаварваньне пытаньняў ішло пад знакам самакрытыкі.

Закранута было пытаньне аб клясавых сымпатыях настаўніка, а таксама пытаньне рэлігіі і рэлігійнасьці. Выявілася, што ёсьць настаўнікі, якія найпрыемнейшыя сябры кулаку, серадняку так і бедняку—ну, проста ўсім могуць угадзіць. Прыкмячаюцца зьявы, калі настаўнік вольны час скарыстоўвае там, дзе-б савецкаму працаўніку і не падабала—ідзе, напрыклад, туды, дзе прасторная хатка, дзе вокны даюць шмат сьвятла і дзе могуць пачаставаць шклянкай гарбаты.

Падбор, укамплектаваньне школ таксама праходзіць не пад зрокам клясавасьці, а проста—хутчэй па здольнасьцях. Ну, як-жа адмовіць і сыну кулака, калі ён ужо здольны—казаў адзін таварыш.

Антырэлігійнае пытаньне і пытаньне быту настаўніка занялі амаль 30 проц. усяе працы канфэрэнцыі. Тут таксама, калі настаўніцтва ня верыць ні ў якіх багоў і чарцей, дык да самае рэлігіі большасьць адносіцца зусім пасыўна.

На што крыўдзіць рэлігійныя пачуцьці глыбока веруючай бабулькі ці дзядулькі.

Шмат настаўніцтва ходзіць у царкву не маліцца, а пацікавіцца, а да розных сьвят рыхтуецца з усімі прысмакамі.

Нават у адным раёне меў месца выпадак, калі настаўнік і самагонам займаўся, але цяпер ён пад судом.

Па гэтых пытаньнях выказалася з месц дзесяткі таварышоў і ўсё падобныя выпадкі, якія маглі мець месца ў настаўніцкіх колах, засталіся асуджанымі, як шкодныя для нашага будаўніцтва.

Рэзалюцыі па гэтых пытаньнях былі аднагалосна прыняты пад лёзунгам глыбейшай клясавасьці, рашучай, актыўнай барацьбы за новы быт, за новую культуру.

Пачэснае месца на канфэрэнцыях заняло пытаньне аб калёквіумах і працягненьні навучальнага году.

Трэба адзначыць, што калёквіумы ў працоўнай савецкай школе на мясцох ня былі зразумелы як належыць.

Гэта былі не калёквіумы, а проста экзамены дапаможных часоў.

Канфэрэнцыі адзначылі, што калёквіумы і экзамены—мерапрыёмствы не пэдагагічныя, але ва ўмовах нашых школ калёквіумы, як калёквіумы, пакуль патрэбны.

У агульным, сёлета навучальны год у школах працягнут даўжэй, але маюцца школы, дзе за ўвесь навучальны час было 129 працоўных дзён. Прычыны гэтаму, галоўным чынам, падаюць на несваечасовы рамонт і няспраўнасьць школьнага будынку.

К будучаму году неабходна райвыканкомам паклапаціцца і зьвішчыць гэтыя дэфэкты.

## Шклоўская раёная канфэрэнцыя

падагуліла вынікі навучальнага году, працу апорных школ, а таксама сталлі справаздачы Акрпраўленьня саюзу і мясцкому Працасьветы.

Адным з важных дасягненьняў пэдпрацы, якое азначана ў рэзалюцыі, зьяўляецца пераход школ на плянавую працу. Гэта пытаньне ўпяршыню стала перад настаўніцтвам у пачатку навучальнага году, увесь навучальны год яно вывучалася, і канфэрэнцыя падагуліла гэты вопыт плянаваньня і дала канкрэтныя ўказаньні настаўнікам у гэтай галіне. Упяршыню на гэтай канфэрэнцыі было высунута пытаньне аб эмоцыянальным разьвіцьці вучня—зусім новая праблема ў нашай школе, бо да гэтага часу мы займаліся толькі справай арганізацыі перадачы вучням агульна-адукацыйных ведаў.

Канфэрэнцыя ў сваей рэзалюцыі вельмі канкрэтна ўказвае тыя пытаньні, над якімі трэба падумаць да пачатку навучальнага году: складаньне пляну працы, вывучэньне мясцовага матар'ялу дзеля прымяненьня ў школе, клопаты аб дзецях бедматы і г. д.

Па справаздачы мясцкому відаць, што ў галіне тарыфна-эканамічнай працы зроблена шмат чаго: абсьледваны ўмовы працы настаўнікаў, атрыманы кватэрныя грошы для гарадзкога настаўніцтва. Наогул з гэтага боку мясцком сапраўды зрабіў ўсё магчымае.

Горш справа з боку культпрацы. Горад абслугоўваецца дастаткова, але на вёсках настаўніцтва вельмі мала працавала па падвышэньні прафпалітпісьменнасьці.

У далейшым гэтую працу трэба разгарнуць.

У галіне грамадзкай працы настаўніцтва на канфэрэнцыі падкрэсьліваліся выпадкі адказу ад яе, але значная большасьць настаўніцтва прымае ў ёй вялікі ўдзел.

Яшчэ адно пытаньне вельмі здаволіла ўсё настаўніцтва: тэрытарыяльны плян увядзеньня ўсеагульнага навучаньня. Гэтыя лічбы яскрава сьведчылі аб нашай моцы, казалі аб тым, што праз 4-5 год праца ў школе ня будзе такой непамерна цяжкай.

Пасьля канфэрэнцыі быў канцэрт, які даваў хор асьветнікаў, прыбыўшы на канфэрэнцыю з Магілеву. З захапленьнем слухала настаўніцтва канцэрт і песьні, якія мастацка выконваліся.

Пасьля канцэрту была ўтворана сямейная вечарына. Весела правялі гэтую ноч, каб з заўтрашняга дню, разьехаўшыся ў свае вёскі, адпачыўшы троху, прыняцца за выкананьне пастаноў канфэрэнцыі, правядзеньне якіх у жыцьцё, бязумоўна, палепшыць хібы ў працы школ.

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼

## Гомельская раёная палітасьветная канфэрэнцыя.

На канфэрэнцыю зьехаліся хатнікі, працаўнікі чырвоных куткоў, лікпунктаў, нардамоў і загадчыкі бібліятэк, маючы на мэце адначасова абмеркаваць і плян летняе працы.

Канфэрэнцыя падрабязна абмеркавала кожную галіну працы, затрымлівала ўвагу на саветах хат-чыталень і іх удзеле ў штодзённай працы хатнікаў, ваенізацыі насельніцтва, справачнай працы, беларусізацыі як з боку вывучэньня бел. мовы саміх работнікаў устаноў, гэтак і папулярызацыі яе паміж насельніцтва, на неабходнасьці шырэй разгарнуць анты-рэлігійную працу, вышукаць найбольш актыву з дарослых сялян і моладзі. Асабліва сталлі пытаньні аб радыё і кіно-перасоўках.

У бібліятэчнай працы абмяркоўваліся пытаньні аб спосабах вывучэньня інтарэсу чытачоў, распаўсюджаньня кніг ў масах і г. д.

Ліквідацыя няпісьменнасьці з яе недахопамі апошняга году, якія зьявіліся вынікам несвоечасовага забясьпечаньня лікпунктаў падручнікамі і адсутнасьцю сродкаў на гаспадарчыя выдаткі і сувязь масавых лікпунктаў з інспэктурай, выклікала значны інтэрас працаўнікоў вясковых лікпунктаў. У рэзалюцыях яны выразна сказалі сваё слова, падкрэсьліўшы разам і пытаньне аб барацьбе з рэцыдывам.

Калі возьмем паасобку працы хатчытален, то на відным месцы будзе Баршчоўская. Пры яе дапамозе адчынена масладзельная арцель, трудгужарцельлю куплена пажарная машына; дзеля замацаваньня пяскоў зроблен пасад лазы на плошчы ў 8 гэктараў.

Хата-чытальня распаўсюджвала аблігацыі пазыкі ўмацненьня сялянскай гаспадаркі (на 292 р. 50 кап); мела звыш 20 пастановак сіламі драмгуртка сялянскай моладзі, выпусьціла пяць нумароў насьценнай газэты і г. д.

Дзеля таго, каб праца хат-чыталень улетку не паслаблялася і каб ня было тых недахопаў, якія мелі месца ў папярэдні час, канфэрэнцыя ў сваёй пастанове спынілася ў першую чаргу на неабходнасьці завастрыць увагу на працы з незаможным сялянствам і батракамі, потым—на ўцягваньні ў спартыўныя і стралковыя гурткі дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, на пашыраньні справачнай працы ў сувязі з вучотам аб'ектаў абкладаньня па новым сельска-гаспадарчым падатку, на ажыўленьні дзейнасьці селькорства, каб згрупаваць адзіночак селькораў пры хатах-чытальнях і чырвоных кутках. Кожны загадчык гэтых устаноў павінен таксама ажыцьцяўляць вызначаныя меры барацьбы з сэктанствам і іншымі галінамі рэлігійнага руху.

У адносінах радыё прапануецца слухаць інфармацыі і даклады, каб насельніцтва, асабліва дарослае, мела магчымасьць пашыраць свае веды. Шмат іншых наказаў і пастаноў падкрэсьліла канфэрэнцыя на шляху працы хатнікаў. Дадзены адпаведныя дэрэктывы і загадчыкам бібліятэк.

У напрамку барацьбы з рэцыдывам паміж тых, хто скончыў лікпункты і групы малапісьменных, маецца пастанова ўцягваць іх у грамадзкую працу і, апроч таго, дзе будзе магчыма, адчыніць нядзельныя школы. На шляху замацаваньня ведаў бел. мовы працаўнікамі лікпунктаў прапануецца ім пасьля летняга адпачынку даведвацца на занятк і пры райпасаветах. Арганізаваць ячэйкі т-ва «Прэч Няпісьменнасьць» там, дзе іх няма. Дарэчы кажучы, у гэтай галіне быў значны недахоп; адсутнасьць ячэек у большасьці паселішч і вёсак шкодзіла працы л.-п. у мінулым годзе, і таму канфэрэнцыя асабліва падкрэсьліла неабходнасьць пашырэньня сеткі т-ва «П. Н.».

Маючы на мэце найбольшае ўцягваньне ў вячэрнія школы дарослых, канфэрэнцыя пастанавіла, каб у пачатку новага навуч. году паміж гэтага кадру насельніцтва была шырачэй разгорнута агітацыйная праца. Вось галоўныя пытаньні 2-хдзённай канфэрэнцыі.

Далейшае разьвіцьцё палітыка-асьветнай працы на вёсцы будзе залежыць ад таго, як будуць імкнуцца да выкананьня ўсіх пастаноў нашыя працаўнікі.

Трэба думаць, што кожны з іх будзе лічыць вялікай задачай удзел у пабудове сацыялістычнай грамады.

# Роля настаўніка ў абслугоўваньні школай беднаты.

Праблема абслугоўваньня беднаты школай зьяўляецца актуальнай, паколькі існуе такая аб'ектыўная абстаноўка, пры якой дзеці беднаты (асабліва вясковай), дзеці сельска-гаспадарчых рабочых ня маюць рэальнай мажлівасьці праходзіць нават поўны курс пачатковай школы. Аб сямігодцы, якая адстаіць на значнай адлегласьці ад пунктаў большасьці пачатковых школ раёну, гаварыць ня прыходзіцца. У аснове тут, бязумоўна, матар'яльная прычына, бо пабочная прычына—адсутнасьць сьвядомасьці ў бедняка—паступова нішчыцца, адмірае, праца на вёсцы з групамі беднаты і наогул палітыка камуністычнай партыі і савецкай улады на вёсцы ўсё больш і больш усьведамляе бядняцкую групу сялянства ў неабходнасьці асьветы.

На многіх сходах сялян, у час правадзімых кампаній, а гэтаксама і на сходах беднаты, адчувалася гэта—школай беднята цікавіцца і разам з тым скардзіцца на яе недаступнасьць, асабліва ў мясцовасьцях на адлегласьці 2—2 з пал. кілёмэтраў ад школы. Грамадзкія органы дапамогі школе, КСУ, каапэрацыя, як паказвае сучасная рэчаістасьць, даюць дапамогі мала, вярней сказаць, не праяўляюць сваей дзейнасьці ў гэтым кірунку. Бюджэт ня можа ахапіць ва ўсёй меры патрэб школы з гэтага боку.

Мне здаецца, што наша савецкая грамадзкасьць яшчэ ня вывучыла гэтага пытаньня і таму, пакуль што, не надае яму належнага значэньня. А між тым факты кажуць выразна. Я прыводжу толькі некаторыя характэрныя лічбы ў выпіку вывучэньня дзьвюх пачатковых сельскіх школ на тэрыторыі тыповага сельскага раёну (Чарэйскі р. Аршанскай акругі).

У школьным раёне з 102 дзяцей 8—12 год маецца: бяднякоў 56 (54,9 проц.), серадзякоў 42 і заможных 4, з іх наведвае школу: бядняцкіх дзяцей 18 (32 проц.), серадняцкіх 18 (каля 43 проц.) і заможных 2 (50 проц.).

Праўда, адмаўленьняў ня было ў прыёме, але тут цікава, што пры ўсіх аднолькавых дадзеных нязьменна ўзрастае процант дзяцей больш заможных пластоў сялянства.

Гэты малюнак прымае яшчэ горшую афарбоўку, калі мы прасочым проц. адсеву розных сацыяльных груп. Вось ён па двух школах;

**Бобрыцкая школа.** Адсеялася ў 1925-26 годзе беднаты 4 проц., серадняков і заможных ніводнага; у 1926-27 годзе: беднаты 4 проц., серадняков і заможных—ніводнага; у 1927-28 г.: беднаты 6 проц., серадняков і заможных—ніводнага.

**Заборская школа.** У 1927-28 г. адсеялася: беднаты 39,1 проц., серадняков 23,8 проц., а заможных ніводнага.

Настаўнікі не вывучаюць прычын гэтага зьявішча і, што горш за ўсё, ня прымаюць, у большасьці, контрмер. Напрыклад, два маладыя, скончыўшыя пэдтэхнікум, настаўнікі Заборскае школы зусім ня цікавіліся гэтай праблемай.

Праўда' у агульным прычыны вядомыя. Для зьнішчэньня іх неабходна мець пры школе невялічкі інтэрнат (на 15 -20 чал.), арганізаваць падвозку дзяцей у непагодлівыя дні, забясьпечыць пісьмовымі прыладамі.

Зразумела, што ад гэтага і пасьпяховасьць дзяцей беднаты значна ніжэйшая, чым іншых пластоў, хоць індывідуальная ацэнка разумовых здольнасьцяй дзяцей усіх пластоў паказала, што з гэтага боку розьніцы няма. Але калі матар'яльныя ўмовы не пазваляюць дзецям беднаты наведваць акуратна школу і мець пісьмовыя прылады ў дастатковай колькасьці (бо падручнікамі беднята забясьпечана), то вывад зусім зразумелы.

Які-ж вывад з гэтага? Выхаду ў сучасны момант трэба шукаць па двух напрамках: арганізацыя грамадзкай дапамогі школе і павялічэньне фонду беднаты па бюджэту.

У першым выпадку многае залежыць ад настаўніка. Той настаўнік, які зацікавіцца гэтым пытаньнем, які прыложыць стараньне, зможа і ажывіць нашы камітэты дапамогі школе і прыцягнуць да мажлівай дапамогі грамадзкасьць—КСУ, каапэрацыі і інш. З свайго боку дзяржава павінна зрабіць значны паварот, каб дапамога беднаце адбілася ў нашым бюджэце на наступны год.

У цеснай сувязі з праблемай палажэньня беднаты ў сельскіх пачатковых школах стаіць праблема пераходу і навучаньня беднаты ў сямілетках. Аб гэтым я пастараюся даць веды ў другі раз.

Цяпер-жа было - бы надзвычайна добра, каб настаўніцтва загаварыла аб гэтым пытаньні на старонках газэты.

**А. Акулік.**

# Больш-бы такіх

У пачатку 1927-28 навучальнага году перад 4-хгадовымі вясковымі школамі Капаткевіцкага раёну былі пастаўлены задачы: аб працяжнасьці навуковага году, аб амаладжэньні школы, аб зьмяншэньні другагодніцтва аб палепшэньні выхаваўчай працы, пашырэньні вытворчасьці і інш.

Зараз зроблен падрахунак працы школ. Камісія па правядзеньні калёквіумаў і насельніцтва адзначыі што Чалюшчавіцкая школа, у якой працуюць настаўнікі А. А. Навахацкі і Н. С. Навахацкая, дасягнула найбольш значных посьпехаў у выкананьні пастаўленых задач. Запяткі ў Чалюшчавіцкай школе распачаліся 10 верасьня і скончыліся 10 мая пры 78 проц. вучняў. Праведзена амаладжэньне школы—школа ўкамплектавана сямілеткамі (І кляса). Амаль поўнасьцю зьнішчана другагодніцтва. Уведзены (прапанованыя ў мінулым годзе пры інструктаваньні школ Акр. Інспэктарам Нар. Асьветы) новыя способы і прыёмы падціагваньня адстаючых вучняў больш здольнымі вучнямі. Добра пастаўлена гурткавая праца, клюбныя гадзіны і інш. Прасунуты настаўнікамі праз вучняў новы быт у вёску як у галіне санітарна-гігіенічнай, так і сельска-гаспадарчай. Усё гэта дало добрыя вынікі як у частцы навучальнай, так і ў карысна-грамадзкай і гігіенічна-выхаваўчай.

Апрача школьнай работы, настаўнік шмат вядзе працы грамадзкай. Ні адна сходка на вёсцы не праходзіць без яго прысутнасьці. Як парадай, так і справай дапамагае ён у працы сельсавету, старшынёю рэвізыйнай камісіі якога ён зьяўляецца, а таксама крамнай каапэрацыйнай.

За сваю надзвычайную працу як школьную, так і пазашкольную настаўнік карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод насельніцтва, служачых і рабочых Чалюшчавіцкага віназаводу, якія ў час выпуску вучняў 11 мая на урачыстым пасяджэньні прыпаднесьлі настаўніку ў адзнаку падзякі адрас і срэбны «партсігар», а вучням, якія канчаюць школу, па куску матэрыі.

Больш-бы такіх школ і настаўнікаў і культурную рэвалюцыю правесьці нам было бы ня цяжка.

# Вынікі працы па новых праграмах і неабходныя ў іх зьмены,

Фактычна навучальны год у сямігодках скончыўся. Магчыма сказаць некалькі слоў аб жыцьцёвасьці праграм Нар. Кам. Асьв. 1927-28 нав. году.

Самыя праграмы вельмі добрыя, па іх лёгка і проста разьмяркоўвацца матар'ял і складаюцца навучальныя пляны, бо паясьняльныя запіскі даюць агульны напрамак у даным выпадку. Але ёсьць тут і некаторыя недахопы, якія, па маей думцы, затрудняюць працу. Мне прыдзецца пісаць выключна аб праграмах па фізыцы і матэматыцы, як выкладчыку гэтых прадметаў. Па фізыцы неабходна зрабіць невялікую ператасоўку і частку матар'ялу перасунуць у курс УІ групы, бо сёмая павінна быць больш свабодна для самастойных прац і паўтарэньня курсу мінулых гадоў, што вельмі карысна і на што ў сучасны момант не застаецца часу. Ня ўсім зразумела ў Ѵ гр., што адначае паглыбленьне і пашырэньне ведаў аб уласьцівасьці газаў і вадкасьцяў па новым канкрэтным матар'яле, калі ў папярэднім курсе ёсьць усё, што магчыма бачыць на вёсцы і ў мястэчку.

Для вясковых сямігодак—пусты гук вадаправоднэя сыстэма, паліўка вуліц, фантан і інш., што прадугледжана ў гэтым месцы. Тое самае і ў курсе УІ групы—апошняе месца праграмы цяплынёвыя рухавікі, якіх ніколі ніводзін вучань на вёсцы ня можа бачыць за рэдкімі выключэньнямі. Што думаў аўтар, уводзячы гэтыя пункты, невядома. Вялікая перашкода і ў тым, што матар'ял па фізыцы раскіданы па некалькіх падручніках, набыць якія вучням не пад сілу. Такі матар'ял, як законы мэханікі ў прыстасаваньні да с.-г. прылад і машын, нават і знайсьці цяжка. Вялікі лік пераліченых досьледаў і назіраньняў на вёсцы правесьці немагчыма, а таму было-б карысным выбраць з іх найбольш цікавыя і патрэбныя ва ўмовах сельскіх сямігодак, бо тут абмежаванае поле дзейнасьці для назіраньняў і досьледаў па фізыцы.

Прыкладзены сьпіс літаратуры не адначае, што для вучняў, а што для настаўніка, няма і адзнакі аб тым, якія дапаможнікі найбольш патрэбны. Для вясковых сямігодак трэба выдаць асобным сьпісам рэкамандаваную літаратуру з паказаньнем, дзе яе набыць, каб дарэмна ня траціць грошы і час на перапіску з кніжнымі магазынамі.

Тое, што падручнікі фізыкі на расейскай мове ўносяць вялікую блытаніну ў галовы вучням, якім прыходзіцца рабіць пераклады і аднachасова вучыць. Прыблізна тое самае і па матэматыцы. Часта прыходзіцца чуць скаргі на тое, што вучні ў УІ і УП групах кепска ведаюць арытмэтыку. Так і павінна быць. Вясковыя школы па данаму прадмету даюць слабыя навыкі і той курс, які паказаны для Ѵ гр. па арытмэтыцы, выканаць добра пры ўсім жаданьні цяжка. Прыходзіцца спяшыць, комкаць матар'ял, і вучні не атрымліваюць таго, што трэба. Неабходна прыняць пад увагу і тое, што вучні з вясковых школ у Ѵ гр. сямігодкі павінны знаёміцца з новым матар'ялам па матэматыцы, альгэбры і сыстэматычным курсам геомэтрыі, на што ідзе шмат часу. Адгэтуль частку сыстэматычнага курсу арытмэтыкі, процанты і вэксалі карысна перанесьці на УІ гр., дзе гэтыя правілы магчыма хутчэй прайсьці, бо тут прыстасуеш і формулы.

Для Ѵ гр. трэба тэрмінова выдаць задачнік па арытмэтыцы, бо матар'ялу сам настаўнік не набярэцца, а вучням цяжка яго зьбіраць, маючы за плячмі і іншыя прадметы.

Навукова-Мэтадалёгічны Камітэт раіць аб'яднаць паасобныя галіны матэматыкі—геомэтрыю, альгэбру і арытмэтыку—у час прахаджаньня, але як гэта зрабіць, ня кажа. Трэба і тут больш яскрава адзначыць, што і як, бо пры тэй вялікай нагрузцы, якая ляжыць часам на выкладчыках сямігодкі, не па сілах рабіць самаму падручнік па матэматыцы.

На ўсіх праграмах адбіваецца тое, што для сямігодак іх распрацоўвалі выключна гарадзкія працаўнікі, якія не прынялі пад увагу ўмоў вясковых школ. Таму тут такія сустракаюцца і пытаньні, якія выключна магчыма разьвязаць у горадзе.

Вельмі каштоўным зьявіўся матар'ял, які зьмешчаны у часопісі „Асьвета» № 2 за 1928 г. т. Сагаловіча. Ён дае належны напрамак у працы ў бок палёгкі.

Канчаючы, трэба за праграмы падзякаваць, але і прасіць перагледзець іх яшчэ раз, правёўшы належную кампанію па абгаварэньні пастаўленага пытаньня.

**Настаўнік.**

# ХАТЫ-ЧЫТАЛЬНІ І БАРАЦЬБА З ПАЖАРАМІ.

Кожны год наша гаспадарка мае вялікія страты ад пажару. Асабліва ўлетку, калі сяляне заняты ў полі, на сенажаці, пажары здараюцца часта.

Гараць цэлыя вёскі, ня толькі будынкі, але і ўся сялянская маемасьць і жывёла.

Ня гледзячы на гэта, справа з пажарамі пастаўлена больш чым слаба.

Перад хатамі-чытальнямі ва ўсю шырыню паўстае задача ўзмацненьня барацьбы з пажарамі. Навакол гэтага пытаньня трэба стварыць грамадзкую думку і да ўдзелу ў справе барацьбы з пажарамі прыцягнуць усё насельніцтва. У першую чаргу ў кожнай вёсцы трэба арганізаваць пажарныя дружыны. Пры дапамозе насельніцтва, сельсавету, камітэту ўзаемадапамогі і каапэрацыі набыць усе патрэбныя, самыя неабходныя прылады для тушэньня пажараў.

Арганізаваць вясковую варту, хаця-б на летні час і ўзмацніць працу сярод дзяцей, якія ўлетку днём фактычна і зьяўляюцца гаспадарамі вёскі. Трэба іх прыблізіць да хаты-чытальні і знайсьці для іх карысную забаву, бо прычынай летніх пажараў на вёсцы ў большасьці і зьяўляюцца жарты з агнём гэтых „гаспадароў»—дзетвары.

Побач з гэтым трэба павесьці шырокую кампанію **за агнятрывалае будаўніцтва, пасадку дрэў навокал будынкаў, а таксама і за добраахвотнае страхаваньне маемасьці**, як адзіны самы верны сродак забясьпечыць сябе на выпадак пажару.

Шырокая, арганізаваная грамадзкая барацьба з пажарамі павінна стаць баявой задачай сёняшняга дню.

Хата-чытальня, школа, камсамол—усе на барацьбу з пажарамі. Толькі агульнымі сіламі, прыняўшы ўсе меры перасьцярогі, мы здолеем перамагчы «чырвонага пеўня».

**М. С.**

# Сіроцінскія адміністратары.

**(Віцебская акруга).**

Шмат ужо пісалася ў забарону настаўнікаў і аб адносінах адміністрацыі да школьнага жыцьця. Здавалася-б, што гэтыя карэспандэнцыі павінны мець належны ўплыў на пылкіх адміністратараў. Але ў нашым раёне адміністрацыя, як відаць, ні з чым ня лічыцца, нічога не прызнае, свае пастановы ня хоча зьмяняць. А зьмяняць іх з таго часу, як стаў новы старшыня РВК і інспэктар нарасьветы, прыходзіцца дужа часта.

Ранейшы старшыня РВК умела разьвязваў тыя ці іншыя пытаньні і лягчэй жылося і настаўнікам і наогул усім служачым: кожны ведаў, што ёсьць аднальковыя і правільныя адносіны да ўсіх.

Выехаў год таму назад ранейшы старшыня РВК т. Шляхтуноў, замяніў яго Краско і ўсё пашло пановаму. Начальства трымае сябе, як начальства; усё робіць пасвойму, напрыклад, было распараджэньне аб тым, каб к 28-IУ к майскаму сьвяту выплаціць пэнсію за красавік усім служачым, у тым ліку і настаўнікам. Але наш старшыня з новым райінспэктарам нарасьветы т. Сяньковым інакш думаюць: хай замест грошай кожны настаўнік возьме на 40 проц. аблігацый сялянскай пазыкі, ня гледзячы на тое, што настаўнікі даўно ўжо набралі для сябе аблігацый больш, чым на 40 проц. Вядома настаўнікі сталі пратэставаць, а начальства крычыць, што яму трэба ў абавязковым парадку распрадаць аблігацыі, не дае грошы. Так прыяжджалі настаўнікі за пэнсіяй і нічога не атрымалі, пакуль мясцком не напісаў у акруговае праўленьне. Тады ўжо старшыня паведаміў настаўнікам прыходзіць за пэнсіяй. Частка бліжэйшых атрымала пэнсію, а большасьць так і засталіся к сьвяту бяз грошай.

Далей, у першых лічбах сьнежня 1927 г., па ініцыятыве райінспэктара нарасьветы т. Сянькова прэзыдыум РВК бяз усякіх уважлівых прычын зьнімае з пасады загадчыцу Вужляцінскай школы т. Сярэбранікаву (пратакол № 40). Калі Сярэбранікава падала заяву, то райінспэктар т. Сянькоў стаў зьбіраць матар'ял аб няпрыгоднасьці к службе Сярэбранікавай, ня гледзячы на тое, што Сярэбранікава працуе ўжо 15 гадоў і мае добрыя водзывы асоб, рэвізуючых школу, так, напр., інспэктар з нарасьветы ў 25 г. абглядаў Вужляцінскую школу, дзе працуе Сярэбранікава, нашоў пастанову вучэбна-выхаваўчай часткі добрай, а таксама і грамадзкую працу, у якую ўцягнуты вучні старэйшых груп, аб чым маецца запіс у школе.

Пастановай акр. трэц. суда ад 9-III гэтага году за № 8-4 (мясцовая РКК не разьвязала канчаткова гэта пытаньне. у РКК з боку адміністрацыі былі той-жа райінспэктар т. Сянькоў і старшыня РВК т. Краско) Сярэбранікава адноўлена ў правох загадчыцы школы, аб чым канцалярыя аддзелу труда паведаміла Сіроцінскі РВК. Між тым, прайшло два месяцы і да гэтага часу, ня гледзячы на запытаньні з боку Сярэбранікавай, ні старшыня РВК, ні райінспэктар нічога не гаворыць, а зьбіраюць самым няпрыгожым способам матар'ял, каб абвінаваціць яе ў слабай грамадзкай працы сярод насельніцтва і зусім зьняць з пасады настаўніцы за тое, што яна мела сьмеласьць падаць скаргу на пастанову прэзыдыуму РВК.

Для характарыстыкі нашага райінспэктара нарасьветы т. Сянькова патрэбна адзначыць, што ён мае малую адукацыю і прапаваў настаўнікам зусім мала, чаму і дае няправільны кірунак школам як з мэтадычнага боку так і з гаспадарчага, што было зазначана на настаўніцкіх канфэрэнцыях 25 лютага і 2 чэрвеня г. г. (На першай канфэрэнцыі быў прадстаўнік ЦП тав. Мацюкевіч). На гэтай канфэрэнцыі настаўнікамі зьвернута была ўвага на тое, што райінспэктар, як былы настаўнік, мае супроць некаторых настаўнікаў «зуб» і пры абглядзе школ высылаў з клясы самым непэдагагічным способам у час лекцый настаўнікаў і заставаўся «сакрэтнічаць» з вучнямі, падрываючы гэтым аўтарытэт настаўнікаў.

У асобе Сянькова настаўніцтва ніяк ня лічыць старшага таварыша, а тыпічнага адміністратара і бюракрата.

Пажадана было-б ведаць, ад каго залежыць: 1) ці мае права РВК ня выконваць распараджэньня вышэйшых устаноў аб выдачы пэнсіі настаўнікам к 28-IУ і прымушаць настаўнікаў у другі раз браць аблігацыі пазыкі?

2) Ці мае права прэзыдыум РВК ня выконваць да гэтага часу пастановы Віцебскага акр. трац. суду ад 9-га сакавіка за № 8-4, аб аднаўленьні ў пасадзе загадчыцы школы Сярэбранікавай?

**Настаўнік.**

# Праца раймэтбюро за навучальны год.

**(Круглянскі раён.)**

Новы склад раённага мэтадычнага бюро быў абраны ў сярэдзіне лістапада 1927 г. Ад папярэдняга бюро не засталося ніякага матар'ялу, які сьведчыў-бы аб прароблена̂й працы, недахопах ці дасягненьнях. Прышлося ўсё рабіць спачатку. Першачарговай задачай было аформіць арганізацыйны бок, што і зрабілі на першым пасяджэньні. Далей распрацавалі падрабязны плян працы на тры месяцы для раймэтбюро і прыкладныя для мэтадычных гуртоў па сельсаветах, пасьля чаго прыступілі да чыста кіруючай работы.

За ўвесь перыяд з 17-XI—27 г. і па чэрвень м-ц г. г. праведзена 18 пасяджэньняў, з якіх 8—па сельсаветах пры школах з удзелам сяброў гуртоў, 1 з удзелам загадчыкаў апорных школ, 1 з кіраўнікоў мэтгуртоў і 8 пасяджэньняў выключ. з удзелам сяброў бюро.

На ўсіх пасяджэньнях разгледжана 70 пытаньняў. І галоўныя з іх адносяцца да вывучэньня праграм, падручнікаў, разгляду плянаў работы гуртоў, распрацоўкі пытаньняў па заданьні акруговага мэтбюро і інш.

Апрача таго, асобнымі таварышамі разглядаліся пляны работ настаўнікаў. Такіх плянаў разглядзелі 17) і загадчыкаў хат-чытальня ў ліку 3.

Сябрам раймэтбюро прачытан адзін даклад на канфэрэнцыі асьветнікаў, разглядзелі 26 пратаколаў мэтадычных гуртоў, зрабілі 5 паездак у школы для праглядзеньня заняткаў і жывой сувязі з мэтгурткамі.

Па заданьні акруговага мэтбюро склалі рэцэнзію на падручнікі вясковых школ, распрацавалі даклады на тэмы: «Орфаграфія і каліграфія ў школе», і «Тэхнічныя навыкі ў комплексе». Заслухалі справаздачы аб працы 8 школ.

Трэба адзначыць, што, дзякуючы актыўнасьці райінспэктара асьветы, часткі сяброў раймэтбюро, мэтадычную працу ў раёне ўдалося пасунуць

уперад. Праўда, не абышлося без непаразуменьняў, бо настаўніцтва Кругляншчыны ў некаторай сваёй частцы вельмі кансэрватыўна ў працы і таму адразу варожа настроілася супроць раймэтбюро, асабліва калі распачаліся паездкі па школах. Тут адразу рашылі, што пачалі езьдзіць для таго, каб потым, сабраўшы належны матар'ял, зволіць іх. Вельмі цяжка было даказаць неабходнасьць складаньня навучальных пляноў, аб чым вяліся доўгія спрэчкі, а таксама аб вучоце работы, бо да гэтага году як першае, так і другое ў Круглянскім раёне ня ўжываліся.

Былі ў працы і хібы. Так па пляну і раймэтбюро і гурткоў вызначылі шмат пытаньняў, але пасьля атрыманьня часопісі «Асьветы» № 1 за 28 г., дзе надрукаваны кіруючы матар'ял для раймэтбюро, хібы выправілі і на кожны гурток далі толькі па 2 пытаньні.

Выезды ў школы і праца там таксама праводзілася ня зусім здавальняюча, бо мала ўцягваліся ў практычныя заняткі мясцовыя настаўнікі. Не ўцягнулі ў працу палітасьветнікаў і ліквідатараў няпісьменнасьці. Але набыты матар'ял і вопыт гэтага году дае надзею на тое, што ў новым навучальным годзе работа пойдзе па правільным шляху і дасьць лепшыя вынікі.

Некалькі слоў аб працы мэтадычных гурткоў. Прымаючы пад увагу недастатковы лік школ па некаторых сельсаветах, гурткі арганізавалі ня ў кожным з іх, а толькі пры 8, вылучыўшы адпаведных кіраўнікоў на кожны гурток.

Ня гледзячы на тое, што раймэтбюро падрабязна растлумачыла мэты і задачы гурткоў, неабходнасьць іх існаваньня дало кірунак у рабоце, пісала лісты, указвала недахопы, вызывала ва пасяджэньні і д. п., толькі невялічкая частка гурткоў тры зразумела патрэбнасьць мэтадычнай работы, рэшта засталася глуха да заклікаў і раймэтбюро і мясцкому працасьветы і якраз тыя, дзе больш скончыўшых пэдтэхнікумы: Цяцерынскі, Паўлавіцкі.

За ўвесь навучальны год прыслана імі па два пратаколы, у якіх нічога няма.

Дзіву даешся, як людзі хутка абрастаюць мохам і робяцца абывацелямі.

Лепшыя гурткі правялі вельмі карысную працу. Ад іх паступіла па 6 пратаколаў з якіх відаць, што імі распрацоўваліся такія пытаньні, як мэтады навучаньня пісьму, чытаньню, матэматыцы, разгледжаны падручнікі, складзены на іх рэцэнзіі, вывучана праграма, складаліся пляны працы і інш. Наогул кажучы большасьць настаўніцтва і на адзінаццатым годзе Кастрычніка ня вельмі далёка адыйшла ад старых мэтадаў работы. Тлумачыцца гэта тым, што большасьць амаль што ніякай мэтадычнай літаратуры ня чытае, кнігі ў бібліятэцы мясцкому і раймэтбюро ляжаць нярухома гадамі. Як яны вядуць працу, адкуль бяруць кіруючы матар'ял — і сказаць цяжка. Ну і вынікі ў такіх кепскія. Адрэзаныя ад жыцьця, ад кнігі такія «настаўнікі» толькі псуюць дзіцянё, не растлумачваючы вучням жыцьця, барацьбы за лепшую долю, бо яны і самі баяцца гэтай барацьбы.

Патрэбны нейкія асобныя меры, каб разьбіць тую сьцяну, за якую яны заселі, хутчэй трэба вывесьці такіх працаўнікоў на шырокі шлях будаўніцтва новай школы, што магчыма зрабіць толькі пры калектывізьме, агульнымі сіламі.

**Архіпаў.**

# Рэлігія і асьветнік.

Ня толькі злосьць, жуда, агіда, а страх бярэ чалавека, калі цяпер сярод настаўнікаў ёсьць служкі божыя, інакш кажучы, жывыя трупы.

Сорамна нам настаўнікам, сорамна Наркамасьвеце, сорамна і працасьвеце, адным словам сорамна ўсім.

Гэта-ж ня жарты: Мітрахван ці Матруна дзіця сваё хрысьціць па закону хрысьціянскаму; Борух мацою заняўся; Пятрусь шафран купляе да пасхі; Мацей у царкву ходзіць, і г. д., адным словам, праграма выконваецца па ўсе сто процантаў.

Да якіх пор, да якога часу будзем няньчыцца ды даводзіць, што рэлігія — дурман? Колькі трэба часу, каб настаўнік уцяміў, што рэлігія для яго (і ня толькі для яго) нішто?

Я, у прыватнасьці, думаю, што для гэтага патрэбна вельмі мала часу і вось чаму: чытаць умее і разумее, аб чым чытае, была-б ахвота; таксама я думаю, што ляпей і лягчэй пойме кожны з нас гістарычны матэрыялізм, чымся боскую філёзофію.

А калі так, то адкуль бяруцца гэтыя жывыя трупы?

Адказ просты: мацi — рэакцыя, контррэвалюцыя і ўсе агіднае.

Якія тут лекцыі, курсы антырэлігійнага характару памогуць гэтаму элемэнту?

Ніякія. Дваццаць год чытай, гавары, даводзь, — усе роўна будзе хрысьціцца, бо гэта гнільлё.

Як ні тлумач манархісту, што цар — крывасмок і інш., ён ня згодзіцца, ня згодзіцца таксама і рэлігійны фанатык з тым, што бога няма.

Неяк сорамна робіцца нам, настаўнікам, чытаючы пастанову пленуму ЦП саюзу працасьветы аб тым, што ў праграму летніх настаўніцкіх курсаў трэба ўключыць цыкль лекцый на антырэлігійныя тэмы і гэта на адзінаццатым годзе рэвалюцыі.

Які гэта трэба мець лоб, каб за дзесяць год нічаму не навучыцца.

Таксама цікава, як многа гэтых «скоцкіх лабацін»?

Я думаю, іх ня так многа і не такую яны важную ролю адыгрываюць, каб з імі цацкацца.

Да і на самой справе, як можна даверыць наш маладняк гэтаму трупу?!

Варта падумаць: ідзе такая ханжа ў клясу і пачынае, хоць скрыта, праводзіць ідэі трохмордага бога.

Ня лекцыя антырэлігійная тут патрэбна, — а мяцёлка, якая-б ачысьціла школы ад такога роду «асьветнікаў».

Ня маем права ні маральнага, ні юрыдычнага дапускаць гэтае заразы ня толькі ў школу, але і блізка да яе.

Ці патрэбна чалавеку з сярэдняй, а то і вышэйшай адукацыяй тлумачэньне шкоднасьці рэлігіі?

Непатрэбна, калі толькі ён не сьвятоша, ханжа, фанатык.

Ня сьмешна было-б, калі-б гутарка ішла адносна антырэлігійнай прапаганды сярод маласьвядомых колаў насельніцтва, а то гутарка ідзе аб асьветніках.

Што тут скажаш? Нічога, апроч «Далоў са сцэны».

**Цяпер некалькі слоў адносна пункту статуту, дзе гаворыцца, што рэлігійнасьць не зьяўляецца перашкодай да ўступленьня ў саюз.**

**Гэты пункт трэба выкінуць, або даць яму другую рэдакцыю: рэлігійнасьць зьяўляецца перашкодай да ўступленьня ў саюз і гэта трэба, як найхутчэй правесьці ў жыцьцё.**

**НАСТАЎНІК АНТОН ЛЁСІК.**

1-я друкарня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Галоўлітбел № 302.